

ЗА ВАШУ І НАШУ СВАБОДУ!

# БЕЛАРУСКІ ВЫБАР

N 3

Ворган беларускіх выбаршчыкаў Украіны


**Надыходзіць час Х! Надыходзіць час Х! Надыходзіць час Х! Надыходзіць час Х!**

## ЧЫТАЙ ДУМАЙ АБІРАЙ



Епіскап
Бруклінскі й Баранавіцкі Васіль

### Пастырскае Пасланьня беларусам Украіны

Дарагія Браты і сёстры!

Надыходзіць адпавядальны дзень у жыцьці Ўкраіны, хутка вы пойдзеце абіраць сябе ўладу. Гэта вельмі адпавядальны крок дзеля кожнага з вас.

Мы шмат чуем, што "любая ўлада ад Бога". Але ж Бог не кіруе намі як рабамі ці робатамі. Памянатайце, Бог, стварыўшы чалавека, надаў яму свабоду волі. Ніхто ня вольны супрацьдзеяць свабодзе волі чалавека (Вых. 5:2; Ерам. 34:8-11).

Свабода кожнага з нас – гэта жыць у Запаветах Госпада. Выкананьне Хрыстовых запаветаў – гэта ня простая справа. Нязлічоная колькасьць мучанікаў аддалі сваё жыцьцё непадкарыўшыся богасупраціўным наказам улады.

Такім чынам, Богам дадзеная ўлада – гэта ўлада, што дзее па Запаветах Госпада; улада вольна абраная народам.

Зьвярнуўшыся да Госпада нашага Ісуса Хрыста, папросім мудрасьці ў нашым выбары. Няхай Госпад дапаможа вам абраць:

***Свабоду Богам дадзенай Украінскай зямлі*. *Свабоду славіць Бога ў роднай мове.***
***Свабоду жыць у запаветах Госпада*.**

З малітвай і дабраславеньням,
**епіскам Васіль.**
**Пінск, 28 верасьня л.Б. 2007**



### Верасень 1362

У бітве каля ракі Сінія Воды ў 1362 годзе беларускае войска пад кіраўніцтвам дабравернага князя Альгерда разбіла орды падольскіх, крымскіх і дунайскіх татараў і вызваліла з-пад іх улады Ўкраінскія землі.

### Верасень 2007

Беларус!
Лёс Украіны зноў і ў тваіх руках!
Не забудзь памяць прэдкаў і зоў крыві!
Дапамагі ўкраінцам павярнуць сябе Ўкраіну.
Прыдзі і пагаласуй за
**Усяўкраінскае аб'яднаньня "Свабода"**

**Надыходзіць час Х! Надыходзіць час Х! Надыходзіць час Х!**

## Мы галасуем каб яны мусілі адказваць…




*За злачынствы пэрыяду расейска-савецкай акупацыі Беларусі і Ўкраіны не лавілі і не судзілі нікога з маскоўскіх нквэдыстаў і мгбістаў. Дагэтуль многія з іх камфортна жывуць на нашай зямлі і атрымліваюць дзяржпэнсіі з кішэняў сваіх ахвяраў. Пра іх ня трэба рабіць выставы. Яны асабіста рэгулярна зьяўляюцца ў Курапатах і іншых месцах, дзе яны тварылі генацыд беларускага ды ўкраінскага народу. "Ветераны" плююць на магілы беларускіх і ўкраінскіх пакутнікаў, ламаюць крыжы, правакуюць абаронцаў сьвятыняў. Яшчэ больш агрэсіўныя іхныя нашчадкі, "істінно русскіе ребята", якія зьяўляюцца ў Курапатах з сабакамі і гарэлкай, блюзьнерацт і куражацца. Яны ставяць "памятнікі" расейскай шлюхе Кацярыне II у Адэсе і калечаць украінскіх патрыётаў На ўсе звароты беларусаў ды ўкраінцаў яны нахабна адказваюць: "А нам плевать, мы не верим…" Яны хочуць усё купіць нарабаванымі ў нашых дзядоў і бацькоў грашамі. Яны ўпэўнены, што так будзе вечна. Яны памыляюцца. Яны ня будуць вечна куражыцца на беларускай ды ўкраінскай зямлі.*

**<u>Каб суд адбыўся абіраем УА "СВАБОДУ".</u>**

## Прамая мова
## Алег Цягнібок:

Сучасную ўкраінскую палітычну ды эканамічну эліту рэпрэзынтуюць пераважна выхаванцы з савецкага камсамолу, кампартыі ды КДБ. Менавіта яны прыўласьнілі сябе ўсе рэсурсы дзяржавы – прадпрыемства, заводы, шахты, банкі, спакойна прасіджываюць штаны ў Вярхоўнае Радзе, абгарнуўшыся ў шалікі і сьцягі сваіх кішэнных палітычных партый.

Праблема Ўкраіны не ў адсутнасьці прафэсійных кадраў, а ў том, што пераважную большасьць кіруючых пасадаў акупоўваюць людзі, якія ў сваёй мэнтальнасьці пакідаюцца "савецкімі", выхаванымі на ідэалях СССР.

У 90-х гадах партыйная камуністычная намэклятура зьмяніла чырвоныя партыйныя, кдэбіскія ды камсамольскія квіткі на малінавыя піджакі і пачала будаваць алігархічную Ўкраіну, сыстэму, якая ўвайшла ў найноўшую гісторыю як "кучмізм", неўзабаве яны ж зрабіліся фінансістамі ды кіраўнікамі мэгаблёкаў ды алігархічных партый, скончаючы сцэнар расколу Ўкраіны. Украіна здолее ўстаць з каленяў, зьмяніць існуючую высьмятковую сыстэму, толькі калі да ўлады прыдуць палітыкі з іншаю мэнтальнасьцю, біяграфія якіх не заплямована камунізмам.

УА "Свабода" на ўсю Ўкраіну заяўляе, што прысутнасьць былой агэнтуры КДБ СССР, выхаванцаў савецкай камуністычнае партыі ды камсамолу ва ўсіх ворганах улады ды рознабарвовым з выгляду палітыкуме ёсьць пэрманэнтнай пагрозай дзеля Ўкраіны ды ўкраінцаў, таму неабходна як магчыма хучэй правесьці люстрацыю ўлады па прынцыпу трох "К" (камуністы, гэбісты, кучмісты), адхіліць ад улады дзярслужбоўцаў, якія працавалі на кіруючых пасадах у кампартыі СССР, ды ў сыстэме КДБ.

## ЛУЦКІ РОК-ФЭСТ ЗА СВАБОДУ

Зміцер Панямонаў




Па дарозе ў Луцк на фестываль "Права быць свабодным" і на зваротным шляху музыкі прайшлі "паглыблены дагляд" на мяжы, а гледачы з Беларусі вымушаныя былі дабірацца цягнікамі – іх аўтобусы пасля спынення міліцыяй раптам сталі "тэхнічна непрыдатнымі" ехаць далей. Да таго ж, усіх "запрасілі" ў пастарунак, дзе перапісалі пашпартныя звесткі і месцы работы ды вучобы. Такім чынам, ім давялося даказваць сваё права быць свабоднымі.

Аўтобус з музыкамі гуртоў "КРАМА", "Уліс", "Зьніч", "Тав. Маўзэр" і журналістамі недзяржаўных СМІ, якія накіроўваліся на фэст "Права быць свабодным" у Луцк, ад'ехаў ад пляцоўкі перад Акадэміяй навук 21 верасня а 14-й гадзіне. Акрамя падазронага мікрааўтабуса з цёмным шклом, што па'ехаў да месца збору адначасова з аўтобусам і з'ехаў адтуль адразу, як той скрануўся з месца, нічога "цікавага" ніхто з пасажыраў не заўважыў. Мікрааўтобус толькі даў падставу для жартаў на тэму "Жыццё трэба пражыць так, каб не было сумна тым, каго прыставілі за вамі назіраць". Але ўсе былі ўпэўненыя, што галоўнае выпрабаванне чакае на мяжы. І памежнікі з мытнікамі гэтыя чаканні спраўдзілі.



Памежнік сабраў у пасажыраў пашпарты і сышоў. Амаль дзве гадзіны ніхто са службоўцаў не падыходзіў да аўтобуса. Калі цярпенне скончылася і прадстаўнікі музыкаў пайшлі высвятляць прычыну затрымкі, апынулася, што яна ў невялікім непаразуменні. Мытнікі не ідуць таму, што пасажы-

ры не аддалі ім дэкларацыі. А дэкларацыі не запоўнілі таму, што не было на руках пашпартоў, каб запісаць у дэкларацыі іх нумары. А пашпарты не вярталі таму, што аўтобус не праверылі мытнікі…. Але нарэшце з дэкларацыямі разабраліся і ўсіх накіравалі ў "залу паглыбленнага дагляду". Толькі для тых, хто ехаў у аўтобусе, гэта ўжо была справа звыклая.




Іншы лёс чакаў аўтобусы з гледачамі, якія мусілі выехаць з Мінску а 22-й гадзіне. Супрацоўнікі праваахоўных органаў дэманстратыўна фатаграфавалі ўсіх на месцы збору. Як толькі аўтобусы з маладымі людзьмі, асноўную колькасць якіх складалі студэнты, ад'ехалі ў бок праспекта Дзяржынскага, за імі адразу накіраваўся міліцэйскі транспарт.

Першы аўтобус затрымалі на падыходах да Дзяржынску. У мясцовым ГРАУС ва ўсіх перапісалі пашпартныя даныя. Паводле слоў міліцыянтаў, прычына затрымання – тэхнічныя непаладкі аўтобуса. Усіх затрыманых пад канвоем адвезлі ў Мінск. Там высадзілі на чыгуначным вакзале, папярэдзіўшы, што лепш ім раз'ехацца па хатах. Паслухаліся не ўсе, і амаль усе вырашылі дабірацца да Луцку сваім ходам.

Другі аўтобус затрымалі бліжэй да Стоўбцаў. Уначы, прыблізна а 2-й гадзіне, пасля таго, як перапісалі пашпартныя даныя затрыманых, міліцыянеры паўтара кіламетра вялі ўсіх пад канвоем на чыгуначны вакзал. Аўтобус з далейшага маршруту знялі. Як раптоўна высветлілася, у яго не гарэлі габарытныя агні. Як распавёў карэспандэнту Еўрарадыё адзін з пасажыраў гэтага аўтобуса, 15 чалавекам з 36 удалося спачатку на электрычцы даехаць да Баранавічаў, адтуль у Брэст, а потым на аўтобусе ў Луцк.

**Пасажыр**: " *Мы думалі, што нас павязуць на "Акрэсціна". Але нас выпусцілі каля вакзалу. Там мы набылі квіткі на цягнік Санкт-Пецярбург – Брэст і а палове на 9-ю былі ў Брэсце. Прыйшлі на аўтобусны вакзал і толькі на другім аўтобусе здолелі дабрацца да Луцку".*

Музыкі ж даехалі да Луцку толькі а 4-й гадзіне раніцы 22 верасня. Адразу засяліліся ў гатэль. Праўда, паспаць давялося толькі 4 гадзіны – а 10-й была прызначана рэпетыцыя і адладка апаратуры.

Пра сам канцэрт можна сказаць толькі тры рэчы. Па-першае, арганізатары паставіліся да сваёй працы вельмі адказна. І сцэна, і апаратура, і асвятленне нараканняў не выклікалі. Па ўсім парку Лесі Украінкі былі расстаўленыя намёты, дзе гандлявалі напоямі, півам, гатавалі шашлыкі. Падругое, сабралося даволі шмат людзей. Акрамя беларусаў з бел-чырвона-белымі сцягамі, што рознымі шляхамі дабраліся да Луцку, прыйшло і шмат украінцаў. А прадстаўнікі Усеўкраінскага аб'яднання "Свабода" прыйшлі арганізаванай групай са сваімі сцягамі. І, нарэшце, музыкі. Нягледзячы на цяжкую дарогу і стомленасць, адыгралі так, што ні беларускія аматары іх творчасці, ні ўкраінцы, якія чулі іх упершыню, не маглі спакойна стаяць на месцы. Танчылі ўсе. А "Жыве Беларусь!" і "Жыве вільна Україна!" гучалі без перапынку. Толькі каля сцэны было каля 2 тысяч чалавек. Колькі яшчэ сядзелі за столікамі і слухалі канцэрт здалёк, гуляючы па парку, падлічыць складана.

На зваротным шляху "залу паглыбленнага дагляду" давялося наведаць усім. І "Сьцяне", музыкі якой з'ехалі адразу пасля выступу а 18-й гадзіне, і "Індызе", што выехала а 21-й, і "Нейра Дзюбелю" з пасажырамі аўтобуса, у якім ехалі "КРАМА", "Уліс", "Зьніч", "Тав. Маўзер", што выехалі з Луцку разам.

Па словах Русі з "Індыгі", калі яны прыехалі на мяжу, там усё яшчэ стаяла машына "Сьцяны". Даведаўшыся ад іх, што правяраюць дыскі з музыкай, перапісваюць на камп'ютар здымкі з фотаапаратаў і сім-карткі тэлефонаў, вырашылі падрыхтавацца.

**Руся**: "*Мы павыдалялі ўсё, што не хацелі, каб правяраючыя бачылі, потым вырашылі "дастаць" мытнікаў. Пасля таго, як у нас сабралі дыскі, што ляжалі навідавоку, і забралі фотаапараты, мы пачалі па чарзе бегаць да мытнікаў і казаць: "А вось у нас яшчэ ёсць дыск класнага амерыканскага гурту, раім перапісаць", і "ў мяне тут сімка з цікавымі тэлефонамі – перапішыце". Яны пагаджаліся і ўсё забіралі*".

Як стала вядома карэспандэнту Еўрарадыё, аднаму з музыкаў "Сьцяны" давялося на мытні затрымацца на лішнія дзве гадзіны, каб напісаць тлумачэнне, чаму ён возіць з сабой выдадзены "Партызанскай школай" дыск з выступам іх гурту.

Перагледзелі ўсе дыскі, спісалі ўсе здымкі і некалькі разоў дасканала праверылі мікрааўтобус "Дзюбялёў". Паглыблены дагляд заняў каля 3 гадзін.



Тое ж чакала і музыкаў "КРАМЫ", "Улісу", "Зьніча" і "Тав. Маўзера" ды журналістаў, што ехалі разам. Адначасова з праверкай персанальных рэчаў тры супрацоўнікі мытні правяралі аўтобус. Яны развешвалі на сядушках і фатаграфавалі фірмовыя майкі фестывалю, знойдзеныя ў салоне газеты і сам салон. Музыкі слушна заўважылі, што такім чынам можна падкласці і нарабіць здымкаў са шпрыцамі ды парнаграфічнымі часопісамі, паўтарыўшы такім чынам гісторыю намётавага гарадку на плошчы ў сакавіку 2006 года. Але калі ад "здымачнай групы" ў пагонах запатрабавалі прадставіцца, адказаць, хто яны такія і што там робяць, тыя, саромеючыся, адказалі, што выконваюць загад. Такім чынам, пераход мяжы зацягнуўся больш чым на 4 гадзіны.

Тое, што зрабіць так, як было ўсё зроблена праваахоўнымі органамі, памежнымі і мытнымі службамі ў дачыненні да жадаючых патрапіць на фестываль у Луцк, было загадана з Мінску, ні ў музыкаў, ні ў гледачоў не выклікае сумненняў. Але як слушна заўважыў Ігар Варашкевіч, у нашай краіне права быць свабодным даводзіцца адстойваць пастаянна. І яны гэта зрабілі ў чарговы раз.

# РАЗАМ ЗА ВОЛЮ І ЛЕПШУЮ ДОЛЮ!




У разгар вайны Германіі і СССР шмат беларусаў апынулася ў разгубленым стане. Жорсткія рэпрэсіі НКУС, пабачанае "вольнае і шчаслівае" жыццё ў БССР пазбавілі спадзяванне на нармальнае жыцьцё, але і немцы зь іх ідэяй перавагі германскай нацыі ня неслі нічога добрага. Усе гэта спрычынілася да тога, што да лета 1944 года на Беларусі стварылася нацыянальнае падпольле, што ня бачыла розніцы ў абодвух акупантах. Да іх далучыліся часткі беларускай паліцыі, краёвай абароны і інш.

Узброеныя нацыянальныя беларускія адзьдзелы пачалі шэраг жорскіх баёў зь немцамі, недаваючы ім пад час уцёкаў праводзіць палітыку "выпаленай зямлі". Гэта было прынцыповым адрозненьнем ад "чырвоных" партызанаў, выконываючых аператыўныя загады савецкага камандаваньня і ня думаючых аб выратаванні жыцця і майна беларускага насельніцтва.

Для лепшага выкананьня сваіх мэтаў, беларускі нацыянальны актыў, у раёнах беларуска-украінскага памежжа, уступіў у шчыльны кантакт з вайсковымі адзьдзеламі УПА(м). Па сведчаньню аднаго зь удзельнікаў беларускага руху, украінскія і беларускія адзьдзелы дапамагалі друг–другу зброяй, ежай, медыкаментамі. Яны нават праводзілі сумесныя баявыя аперацыі. Іх баявы рахунах досыць значны. Толькі ад пачатку лета 1944 г. і да другой акупацыі Беларусі Савецкай арміяй, было выратавана ад зьнішчэння нямецкімі карнікамі як найменей 15 вёсак у сучаснай Берасцейскае вобласці; адбіта ад немцаў і перададзена сялянам тры цягніка зь жывёлай; вызвалена два канслягера зь цывільнымі людзьмі. Разам з тым, атрады абаранялі ад чырвоных партызанаў тых, хто не жадаў апынуцца зноў у сталінскім раю і імкнуўся эміграваць на захад.

*П.Скрыга*

## Ці будуць выбары вольнымі і незалежнымі?




Лідер Всеукраїнського об'єднання "Свобода" зустрівся з представником місії Організації з безпеки і співробітництва в Європі по спостереженню за виборами в Україні Беатою Мартін-Розумілович. У ході зустрічі обговорювалася ситуація, що склалася в нашій державі напередодні дочасних парламентських виборів.

Зокрема, Олег Тягнибок розповів про масові репресії проти членів ВО "Свобода", агітаторів та прихильників партії, що впродовж всієї виборчої кампанії відбуваються по всій Україні. Представниці ОБСЄ були наведені факти та продемонстровані документальні свідчення затримки агітаторів, звільнення з посад членів партії, побиття кандидатів у депутати від "Свободи", нищення особистого майна сим патиків єдиної сили українців тощо. Беата Мартін-Розумілович оглянула також відеокасету, де зафіксовано жорстоке побиття учасників мирного зібрання, зокрема і прихильників "Свободи", під стінами Одеської облдержадміністрації 2 вересня 2007 року, у той час як міліція байдуже за цим спостерігала.

Також Олег Тягнибок проінформував представницю ОБСЄ про вилучення з передвиборчого штабу партії працівниками УМВС в м. Києві системного блоку, де зберігалась уся виборча документація та інформація про кандидатів у депутати від "Свободи", та нанесення тілесних ушкоджень представнику "Свободи" у Центральній виборчій комісії Олександру Башуку.

У ході перемовин сторони також обговорили можливі фальсифікації на дострокових виборах 30 вересня 2007 року. Олег Тягнибок висловив переконання, що партії як владної коаліції, так і т.зв. опозиції намагатимуться вкрасти голоси українців, віддані за Всеукраїнське об'єднання "Свобода", аби не допустити входження патріотичної сили до парламенту. Втім, лідер "Свободи" розповів представниці ОБСЄ про методи, якими партія протидіятиме масовим фальсифікаціям.

Беата Мартін-Розумілович зацікавилася наведеною інформацію та попросила надалі лідера ВО "Свобода" Олега Тягнибока повідомляти місію ОБСЄ зі спостереження за виборами в Україні про нові випадки переслідування, погроз активістів партії та про факти перешкоджання здійсненню "Свободою" законної передвиборчої агітації.

Представниця ОБСЄ також запевнила, що міжнародна організація, яку вона представляє, візьме на контроль процес розслідування правоохоронними органами масштабних репресій проти "Свободи" та повідомить про отриману від Олега Тягнибока інформацію своє керівництво.

*Прес-служба ВО "Свобода"*

12 вересня 2007 року